


*150 гадоў таму на Беларусі адгрымелі баі Паўстання 1863–1864 гг. З тых дзён прайшло вельмі шмат часу, але па тэрыторыі краіны раскідана даволі шмат памятак пра тыя падзеі. Гэта магілы паўстанцаў, рэшткі іх сямейных гнёздаў, памятныя таблiцы і помнікі, ўрочышчы і мясціны. Сёння памяць пра герояў паўстання адраджаецца, вядуцца навуковыя даследаванні, распрацоўваюцца турыстычныя маршруты, друкуюцца памятныя буклеты, паштоўкі, упарадкуюцца памятныя мясціны. Мы прапануем вам адзін з некалькіх магчымых маршрутаў па шляхах Паўстання 1863–1864 гг. Ён ахоплівае Панямонне – Гродзеншчыну і сумежныя раёны Брэстчыны і Міншчыны, якія пры жаданні можна наведаць цягам трох дзён. Гэты рэгіён быў найбольш ахоплены дзеяннямі паўстанчых атрадаў і тут захавалася найболей адзначаных продкамі і нашымі сучаснікамі памятных мясцін. Наш маршрут пройдзе таксама па некалькіх пушчах: Начскай, Ліпічанскай, Гродзенскай, Аўгустоўскай, Белавежскай, Налібоцкай. А пушча, вядома, была для паўстанцаў самым надзейным прыстанішчам. Такім чынам, пачынаем нашу вандроўку.*

# ПЕРШЫ ДЗЕНЬ. МІНШЧЫНА – ГРОДЗЕНШЧЫНА (400 КМ)

Ужо ў самым **Мінску** і найбліжэйшых ваколіцах можна знайсці мясціны, звязаныя з Паўстаннем 1863 г. Напрыклад, на скрыжаванні сучаснай вуліцы Свярдлова з праспектам Незалежнасці 2 чэрвеня 1863 г. быў расстраляны расійскі афіцэр шляхіц Міхал Цюндзявіцкі, які чытаў сялянам "Мужыцкую праўду", заклікаючы іх да зброі. Гэта быў першы паўстанец, пакараны царскімі ўладамі на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Па дарозе ж да вёскі **Бараўляны** амаль праз два гады быў павешаны апошні беларускі паўстанец Тэлесфор Халева, які планаваў працягваць барацьбу і ў 1865 годзе.

Першы наш прыпынак – вёска **Плябань** Маладзечанскага раёна. На старых каталіцкіх могілках прыкладна ў 300 м на паўднёвызахад ад вёскі знаходзіцца магіла паўстанцаў атрада Юльяна Бакшанскага (1824-1863) – знакамітага правадыра вызваленчага руху на Смаргоншчыне і Вілейшчыне. Ю.Бакшанскі яшчэ ў маладосці каля 15 гадоў правёў у ссылцы і на катарзе Нерчынскіх рудніках у Сібіры, а з пачаткам паўстання стварыў уласны атрад, які 4 сакавіка 1863 г. даў каля в. Свечкі апошні бой карнікам. У баі загінула 5 паўстанцаў, у тым ліку і сам Ю.Бакшанскі. Пахаваны яны былі на могілках у Плябані.

Праз Маладзечна і Валожын выязджаем на гродзенскую шашу. Недалёка ад Ліды паварочваем на поўдзень да вёскі **Мохавічы**. Недалёка за вёскай у накірунку на в. Раклеўцы пасярод поля стаяць два крыжы – каталіцкі і шасціканцовы. На адным з камянёў, раскіданых па полі, выбіты крыж і дата "1863". Крыжы пастаўленыя ў 1995 г. высілкамі С.Судніка з Лідскага аддзела Таварыства беларускай мовы. Магчыма, тут пахаваны паўстанцы з атрада Л.Нарбута.



*Помнік паўстанцам у в. Плябань на Маладзечаншчыне*





Уздоўж шашы ад Гродна да Мінска засталося даволі шмат мясцовасцей, якія памятаюць паўстанне, але дзе няма ніякіх памятных знакаў. Напрыклад, у неіснуючым цяпер маёнтку Гаўя нарадзіўся Уладзіслаў Брахоцкі (1810-1896), апошні маршалак шляхты Навагрудскага павета, стваральнік навагрудскай бібліятэкі, які актыўна дапамагаў паўстанцам.



***Уладзіслаў Брахоцкі***

Вяртаемся ў **Ліду**. У Лідзе ёсць адразу некалькі памятных месцаў, звязаных з паўстаннем. У гарадскім парку на вул. Міцкевіча ўсталяваны памятны камень на магіле ксяндза Адама Фалькоўскага (1812-1863), пробашча парафіі ў Ішчолне. Кс. А.Фалькоўскі быў расстраляны на гэтым месцы па загадзе М.Мураўёва за чытанне сялянам маніфеста з заклікам да паўстання. Камень знаходзіцца тут з 2010 г. і пастаўлены дзякуючы мясцовым польскім і беларускім актывістам. На старых каталіцкіх могілках ацалела магіла памерлай у 1938 г. ветэранкі паўстання Валерыі Ціхановіч. Тут жа ў капліцы Св.Барбары знаходзіцца табліца памяці



Былы царскі афіцэр, сын гісторыка Тэадора Нарбута, Людвік Нарбут разам з братам Баляславам пачаў паўстанне на тэрыторыі Лідчыны. Яго атрад некалькі месяцаў вёў баі з царскімі войскамі, але ў пачатку мая быў акружаны каля в. Дубічы. У няроўным баі загінулі 13 паўстанцаў, сярод якіх быў і Л.Нарбут. Смерць Л.Нарбута адлюстраваў на малюнку М.Э.Андрыёлі, які змагаўся на баку паўстанцаў.



***Міхал Эльвіра Андрыёлі. Смерць Людвіка Нарбута каля Дубічаў***




Камень на магіле ксяндза А.Фалькоўскага ў Лідзе




Помнік Людвіку Нарбуту ў Лідзе

расстраляных царскімі ўладамі ў 1863 г. ксяндзоў Лідчыны. Яшчэ адзін важны гістарычны аб'ект – памятная пліта Людвіку Нарбуту, пастаўленая каля касцёла айцоў піяраў у прамысловым раёне Ліды. Гэтая пліта знаходзілася на сцяне старога касцёла піяраў з 1938 г., праўда, у савецкі час яе затынкавалі. Вернікі руплівa аднавілі пліту і ў пачатку 2013 г. паставілі яе каля новага касцёла.

Цяпер рухаемся на поўнач у бок беларуска-літоўскай мяжы, на Воранаўшчыну. У старадаўнім мястэчку **Нача** каля касцёла знаходзіцца памятны знак у гонар паўстанцаў аддзела Л.Нарбута. Памятны знак у Начы пастаўлены пры ўдзеле настаўніка з Радуні Ул.Руля. Ён жа стварыў пры радуньскай гімназіі цікавы музей, дзе нямала матэрыялаў прысвечана падзеям паўстання. У чатырох кіламетрах ад Начы знаходзіцца вёска **Шаўры**. Тут на каталіцкіх могілках размешчаны пахаванні Нарбутаў – удзельніка паўстання Баляслава Нарбута (1843-1889) і яго маці Крысціны. Тут жа за мурам стаіць палявы камень з таблiцай, на якой напісана: "Нарбутам, удзельнікам паўстання 1863-1864, нашчадкі, 1989".



Памятны камень каля касцёла ў Начы



Памятны валун у Шаўрах



Магілы Нарбутаў у Шаўрах

**Шаўры і Нача знаходзяцца ў памежнай зоне, таму адведваючы гэтыя мясціны трэба абавязкова мець з сабой пашпарт і аплочаную квітанцыю за праезд у памежную зону.**

Цяпер наш шлях ляжыць на поўдзень, да мястэчка **Ваверка**. У мясцовым касцёле, перабудаваным у міжваенныя гады, злева ад уваходу знаходзіцца ўсталяваная парафіянамі ў 2003 г. памятная табліца ў гонар ксяндза Раймунда Зямацкага (1810-1863). Кс. Р.Зямацкі быў расстраляны ў Вільні па асабістым загадзе М.Мураўёва за тое, што прачытаў парафіянам маніфест Нацыянальнага урада аб пачатку паўстання.

Пераехаўшы гродзенскую шашу, набліжаемся да вёскі **Ішчолна**. Тут у касцёле знаходзіцца табліца ў памяць пра згаданага ксяндза А.Фалькоўскага, магілу якога мы ўжо адведалі ў Лідзе. Яшчэ некалькі кіламетраў на поўдзень – і мы пад'язджаем да **Жалудка**, вядомага прыгожым, праўда, закінутым палацам і ўнікальнай для беларускіх земляў



Касцёл у Ваверцы



Касцёл у Жалудку

планіроўкай. У мясцовым касцёле знаходзіцца ўсталяваная ў 2005 г. памятная табліца ў гонар ксяндза Станіслава Ішоры (1838-1863). Ксёндз быў расстраляны па асабістым загадзе М.Мураўёва за тое, што прачытаў парафіянам маніфест Нацыянальнага ўрада аб пачатку паўстання.





Адноўленая магіла паўстанцаў у Пацэвічах

З Жалудка праз Ражанку і Пескі пад'язджаем да вёскі **Пацэвічы**. Гэта ўжо Мастоўшчына. Прыкладна ў 2 кіламетрах ад вёскі знаходзіцца магіла 12 паўстанцаў з атрада, які быў разбіты дзвюма ротамі 1-га фінляндскага палка палкоўніка Крамера. Помнік быў узведзены ў 1933 г., але пасля вайны яго разбурылі. У 2011 г. помнік быў адноўлены высілкамі мясцовай польскай супольнасці.

Цяпер едзем у Гродзенскую пушчу ў маляўнічую мясцовасць **Азёры**. У цэн-



тры каталіцкіх могілак відаць пяць вялікіх крыжоў і з табліцай “Паўстанцам 1863 г.” Гэта ма-гілы невядомых паўстанцаў з атрада Аляксандра Лянкевіча, які ў маі 1863 г. заняў Азёры і рушыў далей, далучыўшы да свайго аддзела значную колькасць мясцовых сялян.

Калі ўвесь план падарожжа атрымаецца выканаць цягам аднаго дня, то ў Гродна мы прыбудзем ужо познім вечарам, таму агляд паўстанцкіх мясцінаў горада і ваколіц пакінем на наступны дзень.

***Паўстанцкія крыжы ў Азёрах***





На поўнач ад Азёр знаходзіцца мясцовасць ***Святое Балота*** – месца бітвы з царскімі войскамі. Тут паўстанцы былі атакаваны некалькімі ротамі карнікаў і разбіты, паколькі амаль не мелі агнястрэльнай зброі. Гара, дзе размяшчаўся паўстанцкі лагер, і сёння знаходзіцца фактычна пасярод балота, і трапіць туды магчыма толькі з правадніком. Сёння на гары пастаўлены крыж і пасаджаны малады дубок на месцы старога, знішчанага часам дуба, пад якім адпачывалі паўстанцы.

***Паўстанец. Здымак 1863 г.***

# ДРУГІ ДЗЕНЬ ГРОДНА І ВАКОЛІЦЫ (200 КМ)

Гродна было адным з важнейшых цэнтраў Паўстання 1863-1864 гг. на Беларусі. Гістарычны цэнтр горада адносна невялікі, таму ўсе звязаныя з паўстаннем мясціны можна агледзець за некалькі гадзін. Пачнем агляд з сучаснай Савецкай плошчы. У раёне Савецкай плошчы знаходзіцца **былы езуіцкі калегіум**, цяпер турма. Будынкі былога езуіцкага калегіума часткова выкарыстоўваліся царскімі ўладамі як турма з канца 18 ст. Пасля пачатку паўстання ўлады забралі забудову калегіума ў Фарнага касцёла і прыстасавалі яго для вязняў. З чэрвеня 1863 па жнівень 1865 г. у гродзенскай турме ўтрымлівалі толькі ўдзельнікаў паўстання. Месцамі зняволення паўстанцаў былі таксама **былы кляштар кармелітаў, цяпер Прыёрбанк** і гродзенскі **Стары замак**. І будынак Прыёрбанка, і Стары замак знаходзяцца зусім недалёка ад Савецкай плошчы. Дастаткова толькі крыху прайсці адпаведна па Маставой або Замкавай вуліцах.



*Стары замак*



*Былы кляштар кармелітаў*



*Двор гродзенскай турмы. Малюнак Напалеона Орды, 1860-я гг.*



У былым калегіуме ўтрымлівалі вязняў, а таксама з чэрвеня 1863 па кастрычнік 1864 г. размяшчалася вайскова-судовая і следчая камісія. У турэмным замку ў асобных камерах утрымлівалі правадыроў паўстання. У турме ў той час пастаянна знаходзілася да 350 чалавек і штогод праходзіла да 700 перасыльных арыштантаў – удзельнікаў паўстання, якіх накіроўвалі ў іншыя турмы або на катаргу.



Зыгмунт Урублеўскі (1845–1888), студэнт Кіеўскага ўніверсітэта, працаваў паўстанцкім сакратаром. Быў высланы ў Сібір у салдаты. Пасля жыў у Кракаве, дзе стаў адным з самых знакамітых фізікаў таго часу (першы здабыў вадкі азот і вадкі кісларод)



Каля Фарнага касцёла знаходзіцца **Аптэка Адамовіча**, заснаваная яшчэ езуітамі,– найстарэйшая аптэка Беларусі. Правізарам у аптэцы працаваў шляхціц Адольф Шмідт. У сакавіку 1863 г. ён падрыхтаваў для паўстанцаў паходную аптэку, якая была захоплена войскамі падчас сутычкі на гродзенскай чыгуначнай станцыі. А.І. Шмідт сцвярджаў, што рыхтаваў лекі "па просьбе невядомай асобы", аднак быў прызнаны ўдзельнікам паўстання і прыгавораны да высылкі ў Томскую губерню. У Фарным касцёле захавалася **памятная шыльда братам Урублеўскім.**

Ад Савецкай плошчы пачынаецца аднайменная




***Дом Фукса***

вуліца. Гэта галоўная пешаходная вуліца Гродна, і мы пабачым тут некалькі будынкаў, звязаных з паўстаннем. **Дом Фукса, цяпер крама “Оптыка” (вул. Савецкая, №7).** Тут на кватэры Ідэльфонса Мілевіча адбываліся сустрэчы ўдзельнікаў Гродзенскай Рэвалюцыйнай Арганізацыі, якія наведваў Кастусь Каліноўскі. Тут жылі “ў адных сенях” Сільвястровіч (начальнік Гродзенскага павета, а пазней ваяводскі) і Геніюш (начальнік рэвалюцыйнага бюро). Яшчэ адзін жыхар – Талочка Адольф Іванавіч, памочнік ваяводскага Э. Заблоцкага. Насупраць знаходзіцца **былая мужчынская гімназія (вул. Савецкая, №6).** Гродзенскія гімназісты прымалі актыўны ўдзел у паўстанні і ў рэвалюцыйным руху напярэдадні паўстання. Пасля таго як у пачатку сакавіка 1863 г. шмат гімназістаў (вядома пра 24 чалавекі) прыняло ўдзел у няўдалай выправе чыгункай з Гродна, царскія ўлады паставілі ў гімназіі вайсковы каравул з афіцэра і дзесяці салдат. У гімназіі навучаліся наступныя ўдзельнікі паўстання: браты Баляслаў і Эразм Заблоцкія, Уладзіслаў Жалкоўскі, Жыгімонт Урублеўскі, Юзаф

***Былая мужчынская гімназія***





Гатэль Ромера

Руткоўскі. Ніжэй па вуліцы – **дом і гатэль Севярына Ромера (вул. Савецкая, №23).** Гэта месца сустрэч Кастуся Каліноўскага з удзельнікамі гродзенскай арганізацыі. Севярын Мікалай Ромер (1820 –1885) і яго жонка Тэадора актыўна дапамагалі паўстанцам. С.Ромер быў высланы ў Томскую губерню, яго жонка – у Казанскую, аднак паехала за мужам. Жылі яны ў Табольску, адкуль праз шмат гадоў вярнуліся на радзіму. Гатэль Ромера, канфіскаваны і прададзены ўладамі, хаця і называўся "Маскоўскі", аднак сярод гродзенцаў яго доўга называлі "гатэлем Ромера", або "гатэлем паўстанцаў".

Выходзім на вуліцу Э.Ажэшкі. Зусім недалёка ад скрыжавання



Былы акругoвы шпіталь

з вуліцай Сацыялістычнай знаходзіцца **былы акруговы шпіталь (вул. Ажэшкі, №9).** Шпіталь быў перабудаваны напрыканцы 1850-х гг. з былога бровара баніфратараў. Тут працаваў Іосіф Маркевіч, зборшчык падаткаў для Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі. Ён быў арыштаваны ў сакавіку 1863 г. і высланы ў Пермскую губерню. Працаваў лекарам на залатых рудніках на Урале. З 1868 г. жыў

Дом Элізы Ажэшкі



*Дом Абрэмбскіх*

у Варшаве, працаваў лекарам, актыўна займаўся музыкай. Дапамог стаць мастаком і кампазітарам М.К. Чурлёнісу.

Праходзім па мосце праз Гараднічанку і трапляем да **дамоў Элізы Ажэшкі і Абрэмбскіх па вуліцы Ажэшкі, №17 і №19.** Э. Ажэшка, будучая пісьменніца-дэмакратка, актыўна дапамагала паўстанцам. Жывучы на Палессі разам са сваім мужам Пятром Ажэшкам, яна прымала ў сябе атрад Рамуальда Траўгута – будучага дыктатара паўстання. Размешчаны непадалёк трохпавярховы дом №19 быў пабудаваны на зямлі Э.Ажэшкі ў канцы XIX ст. сям'ёй Абрэмбскіх. Лёс Абрэмбскіх – тыповы для гродзенскай шляхты, якая падтрымала паўстанне. Любамір Абрэмбскі працаваў чыноўнікам у губернскай палаце дзяржаўных маёмасцей. Падчас паўстання стаў касірам гродзенскай арганізацыі. У яго на кватэры адбываліся сустрэчы



паўстанцаў. Арыштаваны царскімі ўладамі, быў высланы ў Сібір і вярнуўся адтуль толькі ў 1878 годзе. Увесь гэты час яго сям'я жыла ў вялікай нястачы. ПамёрЛ.Абрэмбскі ў 1894 г. і пахаваны на могілках па вул. Антонава.

У самым канцы вул. Э.Ажэшкі знаходзіцца новы чыгуначны вакзал, на якім да рамонту вісела **памятная шыльда.** 2 сакавіка (па ст. ст.) 1863 года тут адбыўся бой паміж царскім войскам і паўстанцкім атрадам, які павінен быў выехаць з Гродна ў бок Парэчча. Атрад быў заўважаны ваенным патрулём Калужскага палка, які падняў трывогу, і салдаты атакавалі цягнік з паўстанцамі. Машыніст Вінтэр адчапіў вагоны з паўстанцамі ад цягніка, і з'ехаць з горада ўдалося толькі начальніку станцыі Гродна Кульчыцкаму (пасля памёр ад ран) і яшчэ 6–8 паўстанцам. Рэшту паўстанцаў салдаты рассеялі, параніўшы двух з іх. У наступныя дні ў горадзе было затрымана яшчэ не менш за сорак шэсць паўстанцаў.



*Новы чыгуначны вакзал*



Апрача Л. Абрэмбскага на старых гродзенскіх могілках па вуліцы Антонава пахаваны яшчэ некалькі ўдзельнікаў паўстання 1863 г. Сярод іх Эдвард Сасуліч (Засуліч), гродзенскі чыноўнік, абвінавачаны ў дапамозе паўстанцам; удзельнікі паўстання Уладыслаў Календа і Адам Баяроўскі. Ёсць таксама некалькі пахаванняў каталіцкіх святароў, што дапамагалі паўстанцам або былі ў іх шэрагах.






*Магіла паўстанцаў у Кадышы*

Працягнем нашую вандроўку па ваколіцах. У 35 км на поўнач ад Гродна за мястэчкам Сапоцкін знаходзіцца вёска **Кадыш.** За вёскай каля трасы ў бок літоўскага Капцёва (Капчамесціса) ёсць мясцовасць Лісіная Гара. Тут знаходзіцца помнік паўстанцам на месцы крывавай бітвы з царскімі войскамі. 20-21 мая 1863 г. тут ішлі баі паміж атрадамі Канстанціна Раматоўскага і Віктара Хласкі з некалькімі ротамі карнікаў. Паўстанцы нанеслі паражэнне царскаму атраду, змусіўшы яго адступіць. Лічыцца, што ў магіле пахавана не менш за 14 чалавек. Магіла паўстанцаў вельмі прыгожа адноўлена ў 2011-2013 гг. Едучы ў Кадыш, трэба мець на ўвазе, што вёска знаходзіцца ў пагранічнай зоне, і мець з сабою пашпарты і пропускі.

Вяртаемся ў Гродна, пераязджаем праз мост на правы бераг Нёмана і зноў рухаемся на поўнач, гэтым разам па шашы на Друскенікі. **Вёска Гожа.** За касцёлам на тэрыторыі ўпраўлення лясгаса знаходзіцца радавы склеп Сільвестровічаў. Тут пахаваныя дзед і бацька уладальніка Гожы Станіслава Сільвестровіча, аднаго з бліжэйшых паплечнікаў Каліноўскага. С.Сільвестровіч скончыў Дэрпцкі ўніверсітэт, яшчэ да адмены прыгону ён вызваліў сваіх сялян ад паншчыны. Гэта выклікала сімпатыі да яго з боку гродзенскай інтэлігенцыі, якая запрасіла яго далучыцца да рэвалюцыйнай арганізацыі. Улетку 1863 г. Сільвестровіч узначаліў паўстанцкія структуры ў Гродзенскім ваяводстве, а яго маёнтак стаў базай для перасылкі ўсяго неабходнага для паўстанцаў з Царства Польскага на Гродзеншчыну. С.Сільвестровіч амаль дваццаць гадоў правёў у Сібіры і памёр далёка ад радзімы, але жыхары Гожы памятаюць паўстанца дасюль.

Ізноў вяртаемся ў Гродна, і па Індурскай шашы едзем да павароту на дарогу Р44, што вядзе да Лунна. Прыкладна праз 40 км вы пабачыце драўлянага чалавека, які паказвае накірунак у бок Мінявіч і Багатырэвіч. Не даязджаючы крыху да вёскі Багатырэвічы, можам

крыху прайсці па полі ў бок Нёмана да магілы легендарных Яна і Цэцыліі. Едзем крыху далей і трапляем у **Мінявічы**. Злева ад нас у вёсцы захаваліся парэшткі гаспадарчых пабудоваў маёнтка Яна Каменскага, апісанага ў аповесці Э.Ажэшкі "Над Нёманам" як Корчын (уласнасць Карчынскага). На беразе Нёмана ў лесе крыху ў баку ад вёскі знаходзіцца магіла сарака паўстанцаў. Аб тым, з якога атрада паходзілі паўстанцы і калі тут адбыўся бой з царскімі войскамі, мы не маем ніякіх звестак, але сіла мастацкага слова Э.Ажэшкі зрабіла гэтую магілу ці не самым знакамітым помнікам паўстанню 1863 г. на Гродзеншчыне.

Вярнуўшыся на дарогу Р44, едзем яшчэ прыкладна 10 км да прыгожага мястэчка **Лунна**, у якім амаль цалкам захавалася забудова пачатку ХХ ст. На каталіцкіх могілках злева ад увахода знаходзіцца магіла Каменскіх. Недалёка ад Лунна ў вёсцы Гудзевічы можна паглядзець цудоўны музей, створаны заслужаным настаўнікам Беларусі А.Белакозам. У музеі захоўваюцца экспанаты, звязаныя з асобай Кастуся Каліноўскага.



Магіла паўстанцаў у Мінявічах


Ян Каменскі


Памешчык Ян Каменскі падчас паўстання выконваў функцыі паўстанцкага начальніка Гродзенскага павета, сустракаўся з Кастусём Каліноўскім. Быў арыштаваны, уся яго маёмасць канфіскавана, а сам ён высланы ў Сібір. У 1887 г. Я.Каменскі вярнуўся дадому і вельмі пасябраваў з Э.Ажэшкай, якая называла яго "рыцарам з брыльянтавай душою" і любіла адпачываць ў яго маёнтку ў Мінявічах.




# ТРЭЦІ ДЗЕНЬ. ГРОДЗЕНШЧЫНА – БРЭСТЧЫНА – МІНШЧЫНА (450 КМ)

Пачынаем з вандроўкі на поўдзень у бок Свіслачы. Па дарозе можна заехаць у **Індуру**, дзе на каталіцкіх могілках захавалася магіла мясцовага ксяндза Аляксандра Казлоўскага, якога царскія ўлады падазравалі ў дапамозе паўстанцам. **Свіслач** вядомая найперш сваёй легендарнай гімназіяй, у якой навучаліся Рамуальд Траўгут, браты Каліноўскія, а пасля таго як гімназія была пераўтворана ў настаўніцкую семінарыю,– многія дзеячы беларускага нацыянальнага руху. Будынкі гімназіі захаваліся ў цэнтры Свіслачы дасюль. У цэнтры мястэчка ў скверы прыцягвае ўвагу помнік апошняму дыктатару паўстання Р.Траўгуту, пастаўлены тут у 1928 г. і адноўлены ў канцы 1980-х гг.

На свіслацкіх могілках справа ад праваслаўнай капліцы захава-





Недалёка ад помніка Р.Траўгуту, у канцы так званай “алеі герояў” знаходзіцца адзіны ў Беларусі помнік Кастусю Каліноўскаму. Помнік-бюст пастаўлены тут напрыканцы 1950-х гг. і выкананы знакамітым скульптарам Заірам Азгурам. Правадыр паўстання паказаны тут па матывах знакамітага здымка, у світцы з нашыйным платком.




Магіла Віктара Каліноўскага



Помнік Рамуальду Траўгуту

лася магіла Віктара Каліноўскага – старэйшага брата Кастуся. В.Каліноўскі быў гісторыкам-архівістам і аказаў вялікі ўплыў на фарміраванне асобы брата. Памёр В.Каліноўскі восенню 1862 г. На яго магіле стаіць прыгожы жалезны крыж. Едзем ў бок мяжы да вёскі **Якушоўка** – месца, дзе з 1849 г. жыла вялікая сям'я Каліноўскіх. Каліноўскія пераехалі ў Якушоўку з недалёкіх Мастаўлян (цяпер у Польшчы), і тут Сямён Каліноўскі, бацька Кастуся, заклаў невялікую ткацкую мануфактуру. Апошні раз К.Каліноўскі быў у Мастаўлянах у пачатку лета 1863 г., куды заязджаў разам з Э.Заблоцкім. Каля маёнтка ўзвышаецца крыж, пастаўлены ў канцы 1990-х гг. высілкамі мясцовых беларускіх актывістаў .

Уздоўж Белавежскай пушчы, якая была надзей-





Забудова маёнтка Якушоўка не захавался. У канцы 1980-х гг. тут былі праведзены археалагічныя раскопкі. Кіраваў раскопкамі археолаг Міхась Ткачоў, ён жа знайшоў тут пячатку з радавым гербам Каліноўскіх. Быў распрацаваны праект аднаўлення сядзібы. Але паспелі закласці толькі падмуркі, якія чакаюць часу на адбудову.





*Магіла паўстанца ў Поразаве*

ным сховішчам паўстанцаў, едзем у **Поразава**, мястэчка з непаўторнай заходнебеларускай атмасферай, прыгожым сядзібным домам, захаванымі сінагогай, царквой і касцёлам. На парафіяльных могілках злева ад уваходу знаходзяцца два аднолькавыя вялікія помнікі з камянёў з крыжамі. Гэта пахаванні паўстанцаў Яна Дмухоўскага і Казіміра Шалкевіча. Помнікі пастаўлены ў 1920-х гг. у памяць пра двух местачкоўцаў – удзельнікаў паўстання. Абставіны іх смерці сёння не вядомыя. Магчыма, яны належалі да атрадаў Юльяна Эйтмінтовіча або Ануфрыя Духінскага.

У 20 кіламетрах ад Поразава знаходзіцца вёска **Падароск** (па дарозе можна агледзець парк і палац у Красках). У Падароску дасюль знаходзіцца прыгожы палац, сядзіба ўдзельнікаў паўстання Бохвіцаў (Быхаўцаў). Удзел у паўстанні прынялі два сыны ўладальніка Падароска, вядомага пісьменніка Фларыяна Бохвіца – Раман і Ян Отан. Асабліва цікавы лёс Рамана Бохвіца, які некалькі месяцаў правёў у паўстанцкім атрадзе, пасля сядзеў у царскай турме, але потым быў вызвалены "пад строгі паліцэйскі нагляд". Раман Бохвіц дажыў да 1939 г. і яго дасюль успамінаюць падароскія старажылы.

Праехаўшы некалькі кіламетраў на поўдзень у накірунку Ружан мы трапляем на Брэстчыну. За Зеляневічамі паварочваем управа і праз Магілёўцы (тут таксама знаходзіўся маёнтак Бохвіцаў, у якім Т.Нарбут адшукаў знакамітую "Хроніку Быхаўца") едзем у **Лыскава**, мястэчка



***Магіла паўстанцаў у Ласасіне на Пружаншчыне***



***Памятны крыж на магіле паўстанцаў у Косава***

з фантастычнымі руінамі касцёла і адзінай у Беларусі царквой, пабудаванай у карпацкім стылі. Каля Лыскава адбылася пераможная для паўстанцаў бітва з царскімі войскамі, месца якой сёння, на жаль, ніяк не адзначана. 16 чэрвеня 1863 г. паўстанцы з атрада Валерыя Урублеўскага адбілі тут некалькі атак рэгулярнай арміі. Карнікі страцілі 11 чалавек забітымі і вымушаны былі адступіць.

Вяртаемся на ружанскую шашу і, агледзеўшы ружанскі палац, пад'язджаем да вёскі **Ласасін**. 4 чэрвеня 1863 г. каля вёскі быў акружаны атрад Влодэка "Шчаснага", які цэлы дзень біўся з карнікамі. Паўстанцы адбілі восем атак царскіх войскаў, але пасля былі змушаны прарывацца з акружэння. Усяго паўстанцы страцілі каля 40 чалавек, якія пахаваныя ў гэтай магіле. Помнік быў пастаўлены ў 1989 г., але праз дзесяць гадоў яго знішчылі падчас вайсковых вучэнняў. Некалькі гадоў таму мясцовае Таварыства беларускай мовы аднавіла помнік. Недалёка ад Ружанаў знаходзіцца мясцовасць **Косава**, вядомая прыгожым палацам і нядаўна адноўленай сядзібай Тадэвуша Касцюшкі. А вось помнік паўстанцам 1863 г. на мясцовых каталіцкіх могілках амаль невядомы. Ён пастаўлены ў 1928 г. і мае выгляд вялікага каменнага крыжа. У магіле дакладна пахаваны тры паўстанцы – Лукашэвіч, Красінскі і невядомы. Таксама блізка ад мястэчка знаходзіцца ўзгорак – Шыбельня, дзе, паводле звестак мясцовых жыхароў, карнікі вешалі паўстанцаў.

З Косава выязджаем на трасу М1 і едзем да павароту на шашу Р43. Па ёй хутка дабіраемся да



Каліца памяці паўстанцаў у Мілавідах





У сярэдзіне мая 1863 г. пад Мілавідамі сканцэнтраваліся атрады са Слонімшчыны, Ваўкавышчыны, Гродзеншчыны, Навагрудчыны і Пружаншчыны, у якіх налічвалася больш за 800 чалавек. 21 мая 1863 г. атрады ў Мілавідах інспектаваў Кастусь Каліноўскі і Эразм Заблоцкі. 22 мая (3 чэрвеня па н.ст.) да Мілавідаў падышлі тры роты Стараінгерманландскага палка з 4 гарматамі і атрадам казакаў. Камандаваў атрадам падпалкоўнік Булгарын. Царскія войскі некалькі гадзін штурмавалі лагер, але змушаны былі адступіць, страціўшы 7 чалавек забітымі і каля 50 параненымі. Ноччу паўстанцы пакінулі лагер, паколькі ўрадавыя войскі атрымалі падтрымку.

**Мілавідаў** – месца найбуйнейшай на тэрыторыі сучаснай Беларусі бітвы паміж царскімі войскамі і паўстанцамі. У Мілавідах на месцы бітвы сёння знаходзяцца тры помнікі: пастаўлены ў 1913 г. металічны крыж на магіле рускіх салдат з выявай зламанага коласа (менавіта гэтая выява натхніла У.Караткевіча назваць свой знакаміты раман “Каласы пад сярпом тваім”), капліца, узведзеная ў 1933 г., і пастаўлены ў 1990 г. памятны знак з надпісам па-беларуску.

З Мілавідаў едзем на поўнач да Навагрудка (шлях будзе праходзіць каля легендарнага возера Свіцязь). Першую сталіцу Вялікага Княства Літоўскага можна наведаць, а можна аб’ехаць па навакольнай дарозе і выехаць да Любчы, да ўскрайкаў Налібоцкай пушчы. Каля Любчы знаходзіцца невялікая вёска **Сянно**. Выязджаем з Сянна ў бок Шчорсаў. Прыкладна ў 250 метрах ад шашы ў полі ў акружэнні дрэваў узвышаецца металічны помнік Эвеліне Пуслоўскай з роду Абуховічаў (1800-1880). Тут жа пахаваны яе 22-гадовы сын Адам Пуслоўскі.



***Форма паўстанцаў 1863-1864 гг.***

А.Пуслоўскі далучыўся да паўстанцаў у красавіку 1863 г. Праз некалькі тыдняў атрад быў разбіты ў Налібоцкай пушчы, а палоннага Адама прывезлі ў Навагрудак і ў канцы чэрвеня 1863 г. расстралялі па прысуду вайсковага суда. Сяляне выкапалі цела паўстанца і пасля пахавалі ў яго маёнтку. Маці пахавалі разам з сынам. Помнік умацаваны гранітнай плітой з інфармацыяй пра Адама Пуслоўскага на беларускай мове.

Каля сарака кіламетраў добрай грунтовай дарогі праз Налібоцкую пушчу на ўсход – і мы ўжо зусім недалёка ад Мінска, у вёсцы **Налібокі** Стаўбцоўскага раёна. У Налібоках і каля іх ёсць некалькі звязаных з паўстаннем 1863 г. месцаў, якія пакуль яшчэ ніяк не адзначаны. У пачатку вясны 1863 г. тут адбыўся бой адносна невялікага (каля 150 чал.) і слаба ўзброенага мясцовага атрада з рэгулярнай арміяй. Паўстанцы страцілі каля 20 чалавек і вымушаны былі адысці на Навагрудчыну, каб працягваць барацьбу далей.

Телеграфъ  въ Гродно

Сентября мѣсяца 1863 года.

Изъ Вильно III Телеграмма №142

| Раз-рядъ | Счетъ словъ | Подана | | | | Получена | | | | Служебныя отмѣтки. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | число. | часъ. | мин. | попол. | число. | часъ. | мин. | попол. | |
| | 25 / 112 / 65 | 27 | 6 | 45 | пд | 27 | 8 | 30 | пд | |

Гродн.

Губернатору.

№395 у м ч ц л ор. Гродненскаго о х р о х ц ч п о м доноситъ въ Вильно. Въ числѣ м л р ч п х о м ш ш ы ж ор взято г р щ ц х л ор ц е х е ы подъ этому нужно ч у х л т щ ц л ц т ж м п ор г ц с х л м в а в ш м ц п ор у п х эти лица. Допросите о нихъ щ х у п х л м в ш е с х х я у м и х. Обратите вниманіе и на б х г т з з у м ч р с ф ор о р. л ч п л х о ц н м.

Генералъ Муравьевъ



## ДАДАТКОВАЯ АКТУАЛЬНАЯ ЛІТАРАТУРА ПА ГІСТОРЫІ ПАЎСТАННЯ 1863 г.


- Адрасы паўстання 1863-1864 гг. у Гародні і на Гарадзенчыне. Гародня, 2013.
- Буднік Іван Да падзеяў 1863-64 гадоў на Гарадзеншчыне. Гродна, 2013.
- Горад Святога Губерта. Альманах лакальнай гісторыі. Выпуск VII. Гродна, 2013. Нумар прысвечаны падзеям паўстання на Гродзеншчыне.
- Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі. Менск, 2011.
- Матвейчык Дзмітрый. Паўстанне 1863-1864 гадоў у Беларусі: нарыс баявых дзеянняў. Мінск, 2013.
- Часопіс ARCHE №12 за 2010 г. цалкам прысвечаны Паўстанню 1863-1864 гг. на Беларусі.
- Porzecki Józef. Gloria Victis. W 150-tą rocznice Powstania Styczniowego. Grodno, 2013.



Тэкст Э.Дмухоўскі. Кансультант А.Вашкевіч, дызайн і вёрстка І.Паўлёнак. У выданні выкарыстаны фотаздымкі Я.Лялевіча, Ю.Дарашкевіч, Э.Дмухоўскага, з сайтаў radzima.org, wikipedia.org. Праект сядзібы аднаўлення Каліноўскіх у Якушоўцы выкананы В.Касцюк на аснове чарцяжоў 1989 г.

ШАУРЫ
Воранава
НАЧА
ЛІДА
ІЎЕ
КАДЫШ
ГОЖА
ГРОДНА
ВАВЕРКА
МОХАВІЧЫ
СЯН
АЗЁРЫ
БЯРОЗАЎКА
СКІДАЛЬ
ШЧУЧЫН
ІШЧОЛНА
НАВАГРУДАК
Нёман
МІНЯВІЧЫ
ІНДУРА
МАСТЫ
ЖАЛУДОК
ДЗЯТЛАВА
Кар
ЛУННА
Шчара
ПАЦЭВІЧЫ
Вял. Бераставіца
ВАЎКАВЫСК
Зэльва
БАРАНАВІЧ
ПАДАРОСК
СЛОНІМ
МІЛАВІДЫ
СВІСЛАЧ
ЛЯХАВ
ПОРАЗАВА
Ружаны
ЯКУШОЎКА
Шчара
КОСАВА
ЛЫСКАВА
ЛАСАСІН
ІВАЦЭВІЧЫ

ПЕРШЫ ДЗЕНЬ (400 км) | ДРУГІ ДЗЕ

Мінск – Плябань – Мохавічы – Ліда – Нача – Шаўры –
Гродна – Кадыш – Гожа – Мінявічы – Лунна
Падароск – Лыскава – Ласасін – Ко



МАЛАДЗЕЧНА
ПЛЯБАНЬ
ЛАГОЙСК
БАРЫСАЎ
ЖОДЗІНА
ВАЛОЖЫН
ЗАСЛАЎЕ
СМАЛЯВІЧЫ
НАЛІБОКІ
МІНСК
НО
Фаніпаль
ДЗЯРЖЫНСК
ЧЭРВЕНЬ
МАР'ІНА ГОРКА
элічы
СТОЎБЦЫ
Узда
Пціч
НЯСВІЖ
КАПЫЛЬ
СЛУЦК
СТАРЫЯ ДАРОГІ
КЛЕЦК
ічы
САЛІГОРСК
Глуск
ЛЮБАНЬ
ГАНЦАВІЧЫ

НЬ (200 км)

ТРЭЦІ ДЗЕНЬ (450 км)

– Ваверка – Ішчолна – Жалудок – Пацэвічы – Азёры

а – Індура – Свіслач – Якушоўка – Поразава

сава – Мілавіды – Сянно – Налібокі



